№ 4-5 [31-32] Красавік-Травень 1950 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ВЕДАЙ, ВЕРАЙ, НАДЗЕЯЙ І ЛЮ- БОЎЮ ДА ЛЕПШАЕ БУДУЧЫНІ.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 40 фр.

Адрэс рэдакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 628744.

Падпісная цана на год 350 фр.

## СЬВЯТА РАДАСЬЦІ



Вялікдзень на эміграцыі шмат каму прыносіць сумны настрой. Дык ня дзіва, што шмат хто ў вялікодную раніцу ўроніць не адну сьлязу, падобна як калісьці Марыя Магдаліна над пустым гробам Хрыста. Шматлікія эмігранты ня маюць магчымасьці на Вялікдзень пайсьці на багаслужэньне і амаль нідзе не дачакаюцца валачобнікаў. Затое ўсюды і да кожнага ў вялікодныя дні гурмам нахлынуць сумныя ўспаміны, аб бацькаўшчыны, аб сваіх родных і знаёмых. А ў гэткім настроі ня радасьць, а вялікі сум агортвае душу чалавека і тады гатоў паўтараць за прарокам Ераміям: «Хто дасьць галаве маёй воду і вачом маім крыніцы сьлёз, каб плакаць дзень і ноч па зьніштожаных сынох і дочках майго народу» (Ерам. IX, 1).

Сум беларускае эміграцыі можа быць тымбольш даймаючы, што беларускі народ цярпеў цэлыя стагодзьдзі, але да гэтага часу яшчэ не дачакаўся свайго Ераміі, які-б выліў з крыніцамі сьлёз тую горыч цярпеньня, якая за гэты час назьбіралася. Толькі народныя беларускія песьні выконвалі гэтае заданьне, таму яны ў бальшыні сумныя. І вось тое нявыплаканае векавое гора на эміграцыі шматкротна збольшваецца. Калісь Фр. Багушэвіч прабаваў наладзіць дудку на вясёлы лад, але гэтага ня змог, бо народнае гора было такое, што паэт мусіў сьцьвердзіць: «Кінь наўкола вокам, дык крывавым сокам, не сьлязой заплачаш, як усё абачыш».

Коратка кажучы: і ў мінулым і ў сучасным ёсьць шмат, нават вельмі шмат падзеяў, якія могуць глыбока засмуціць нашы сэрцы і быццам аграмадным цяжарам прыгнуць головы да зямлі.

Але ня смутку жадае наша душа. Ня крыніцы сьлёз шукае яна, але нясьсякаючае крыніцы радасьці шукае наша сэрца. І добры Бог пасылаючы на зямлю да людзей свайго Адзінароднага Сына, даў магчымасьць людзям знайсьці шлях да сапраўднага шчасьця і радасьці.

Гэты шлях ідзе праз Галгофту, праз мукі,

праз гроб і вядзе да ўваскрасеньня, да перамогі. Хрыстос цярпеньнем перамог людзкую крывадушнасьць; любоўю перамог злобу і сьмерцю перамог сьмерць. Гэта была найбольшая і адзіная у сваім родзе перамога ў сьвеце і з яе крынічыць радасьць найбольшае ступені. Хто адважна йдзе сьледам за Хрыстом, той нямінуча стане ўдзельнікам пладоў перамогі Хрыста і будзе перажываць разам з Ім нявымоўную радасьць.

Цяжка гаварыць аб гэтай радасьці да тых, хто па-за сваімі матэрыяльнымі справамі і справамі свайго жывата ня цікавіцца больш нічым, і да тых, хто расплываецца ў сваім смутку да тае ступені, што ня чуе заклікаючага голасу. Аднак добры Бог не пакідае нікога. Вялікодны звон не абмінае ніводнага вуха, вялікоднае сонца не абмінае ніводнага аблічча і вялікодны вястун не абмінае ніводнае душы.

Першы Вялікдзень на нашай Зямлі хрыстовы вучні так-жа спатыкалі з сумным сэрцам. У нядзелю рана Марыя Магдаліна горка плакала над пустым гробам, нізка апусьціўшы галаву да халодных скалаў. Яна ня бачыла, што Хрыстос зьявіўся ля яе і стаяў тут-жа ля гробу. Але як толькі ўзьняла галаву, убачыла Яго. Ісус адзываецца да яе, называе яе па імені: «Марыя!», і яна пазнае Яго і адразу яе сум замяняецца на нявымоўную радасьць. Ля кожнага з нас у Вялікдзень стаіць Хрыстос, да кожнага з нас сьвятая Царква звяртаецца з вялікодным заклікам: «Хрыстос Уваскрос!». Хто шчырым сэрцам успрыймае гэты кліч і адказвае: «Запраўды ўваскрос!», той адчувае цудадзейную сілу, якая акрыляе людзкую душу, напаўняе яе радасьцю, гоіць усякі боль і цярпеньне. Няма на сьвеце большае радасьці, як вялікодная. Бо калі Хрыстос уваскрос, дык і мы, Ягоны вернікі, так-жа ўваскросьнем; калі Хрыстос перамог зло, і мы пераможам; калі Хрыстос перамог людзкую злобу і мы яе пераможам. Цярпіць кожны з нас, але пасьля ўваскрасеньня Хрыста мы ведаем, што цярпеньне трывае коратка, затое радасьць будзе трываць вечна. На Вялікдзень можам перанесьціся думкаю ў тую вечную радасьць, перажыць адну хвіліну таго будучага шчасьця, і што-ж можа быць больш радасным?

Ад вякоў на Беларусі існаваў звычай, што на Вялікдзень ходзяць валачобнікі ад хаты да хаты і прыносяць з сабою вялікодную радасьць. У некаторых ваколіцах пачынальнік перад сьпевам валачобных песень вітаў гаспадара славамі: «Там на гары Галгофце іудэі стаялі, Ісуса Хрыста цярновым вянком каранавалі. Пад крыжам Яго Маці стаяла і моцным голасам казала: «Сын мой прыкрасны, ў вачох Маіх ясны, Ты на Крыжы памірэеш, Мяне адну пакідаеш». «Ня плач, ня плач, Мая родная Маці! Я ў тры дні ўваскросну ўсяму сьвету радасьць прынясу!» Мы гэту радасьць зьвяшчаем, Вас з сьвятам вітаем: Хрыстос Уваскрос! Хрыстос Уваскрос! Хрыстос Уваскрос!» Няма надзеі, каб на эміграцыі завіталі ў розныя куткі расьсеяньня валачобнікі і прынесьлі радасны вялікодны прывет. Таму наш сьціплы часапіс бярэ на сябе абавязак замяніць валачобнікаў і хоць з вялікім апазьненьнем ШЛЕ ЎСІМ СВАІМ ЧЫТАЧОМ ВЯЛІКОДНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ: ХРЫСТОС УВАСКРОС!

---

# НАДЗЕЯ

Слова «надзея» кожны добра ведае і паясьняць яго ня было-б ніякае патрэбы, каб ня было падобнага слова «спадзяваньне». У штодзеннай гутарцы гэтых слоў часам не разрозьніваюць і ўжываюць адно замест другога. Тымчасам між імі ёсьць паважная розьніца, бо надзея азначае ўпэўненасьць штосьці здабыць, ці атрымаць, а спадзяваньне гэта толькі чаканьне (часам зусім не абсанаванае) чагосьці пажаданага, але бяз упэўненасьці яго здабыцьця. «Спадзяваўся дзед на мёд, ды ня еўшы спаць лёг». Калі надзея лічыцца цнотаю чалавека, дык спадзяваньне наадварот і таму слова спадзявайла зьяўляецца заганным назовам.

У багасловіі вера, надзея і любоў называюцца багаслоўскімі цнотамі. Таму яны багаслоўскія, бо іхным прадметам ёсьць сам Бог.

Надзея, як цнота, гэта такая ўласьцівасьць душы, з якое паўстаюць акты, якімі надзеемся атрымаць тое, у што верым і што любім.

Акт надзеі мае чатыры ўмовы: 1. Ён адносіцца да некага д а б р а. Дрэннага мы не надзеемся, але баімося. 2. Тое дабро мае быць у б у д у ч ы н і. Калі нешта добрае мелі калісьці, ці маем цяпер, дык ужо не надзеемся, але цешымся. 3. Здабыцьцё таго дабра с п а л у ч а н а з ц я ж к а с ь ц я м і. Не гаворыцца аб надзеі адносна таго, што можна здабыць бяз ніякіх цяжкасьцяў. 4. Здабыцьцё таго дабра м а г ч ы м а е. Не надзеемся рэчаў немагчымых.

Каб надзеецца трэба перш ведаць, прынамся ў магчымых межах, тое, чаго маем надзеецца. Дзеля гэтага неабходнаю перадумоваю надзеі ёсьць пазнаньне і вера. Надзея вымагае перш разважнае застановы і гэтая развага павінна быць паважна абаснаваная, таксама зрэштаю, як і вера. Надзея заўсёды абасноўваецца на веры. Таму недаверкі ня могуць мець надзеі. На колькі ёсьць моцнай вера, такой-жа моцнай можа быць і надзея і аднолькава непамыльнай, бо акт на-

дзеі скіраваны да таго, што Бог абяцаў. Калі-ж нешта Бог прырок, дык ня можа быць ніякага сумніву, што гэтае прырачэньне Ён выканае, бо Бог заўсёды верны ў тым, што прыракае (Жыд. X, 23).

Праўда, што для асягненьня таго, што Бог прырок трэба перамагаць цяжкасьці, але Бог ніколі не адмаўляе свае помачы для перамогі гэтых цяжкасьцяў і праз меру ад чалавека ня вымагае. (I. Кар. X, 13).

Цяжка сабе ўявіць, што нехта асягне збаўленьне, калі не надзеецца на збаўленьне, таму цнота надзеі неабходная для збаўленьня душы, падобна, як вера і лобоў.

Так у кароткіх словах можна ўняць навуку сьв. Царквы аб багаслоўскай цноце надзеі. Але надзея ня ёсьць толькі багаслоўскаю цнотаю, яна зьяўляецца агулам цнотаю чалавека. Галоўным прадметам надзеі ёсьць Бог, а другарадным прадметам можа быць кожная іншая рэч, аб якой мы можам прасіць Бога ў нашых малітвах і гэтыя просьбы Бог можа так-жа пэўна зьдзейсьніць, як і збаўленьне нашае душы. Сам Хрыстос навучае нас: «Прасеце і будзе вам дадзена; шукайце і знойдзеце; стукайце і адчыняць вам» (Мат. VII, 7).

Сумнае было-б людзкое жыцьцё, каб ня было надзеі. Асабліва ў тых цяжкіх мамэнтах, калі чалавек перажывае якія няшчасьці, калі цяжка цярпіць — тады без надзеі ён быў-бы жалюгоднаю істотаю. Надзея нас ня зводзіць і не ашуквае; яна пераносіць нашу думку з цяжкае сучаснасьці ў лепшую, сьветлую будучыню, якая нас чакае, і там душа набірае сілы да ператрываньня і перамогі ўсіх жыцьцёвых цяжкасьцяў.

Надзея родзіць давер, дае супакой і цярплівасьць чалавеку. З надзеяю ў душы чалавек заўсёды адважны ў сваіх жаданьнях і бадзёры, таму надзея ёсьць магутным прынцыпам дзеяньня. У часе суму надзея падтрымоўвае душу і перамагае сум. У змучаньнях і няўдачах яна дае цярплівасьць і давер. Адгэтуль ясна, які вялікі ўплыў надзеі на душу чалавека, які гэты ўплыў дабрадзейны і якое вялікае значэньне мае яна ў асабістым і грамадзкім жыцьці. Надзея заўсёды дадае чалавеку сілы і вытрываласьці. Не дарма-ж яе называць маткаю сілы.

Нават калі надзея абаснаваная толькі на нейкіх повідных матывах, дык і тады яна ўспамагае чалавека, а што казаць, калі яна, як багаслоўская цнота, абаснаваная на разумнай і непамыльнай веры!? Калі вачыма веры чалавек бачыць сапраўднае вечнае шчасьце, якога ўсімі сваімі сіламі жадае наша душа; калі ведае, што Бог успамагае чалавека, каб гэтае шчасьце асягнуць, — якое-ж гэта магутнае апірышча для нашае слабасьці!

Ня дзіва пасьля гэтага, што некаторыя выдатныя пісьменьнікі па мастацку і вобразна прыраўноўвалі надзею да дбайлівае маці. Як маці клапоціцца каля свайго хворага дзіцяці, так і надзея ўспамагае безнадзеенага і зьбядованага чалавека. Своё хворае дзіця маці гойде ў абыймах, дае яму свае грудзі, каб накарміць і супакоіць; туліць да свайго лона, каб укаіць боль; яна неадступна вартуе ля ложка і ўсыпляе свайго малога чароўнымі калыханкамі. Падобную лагодзячую і ўмацоўваючую прыслугу робіць чалавеку надзея.

Беларуская прыказка кажа: Жыцьцё грудаю пасьцелена, чэмерам пасыпана. Таму кожны чалавек усё жыцьцё мусіць змагацца. Тымбольш вернік мусіць весьці безнастанны і заўзяты бой з варожымі сіламі. Ня раз і ня два, зьмогшыся ў гэтай барацьбе, ён падае, але не зьняверваецца і таму канцовая перамога заўсёды будзе належаць яму.

Душа эмігранта, больш чым іншага чалавека, выстаўлена на шматлікія цярпеньні. Можна ўсюды заўважыць, як у гэтых цярпеньнях кідаюцца людзі на ўсе бакі і нават не здаюць сабе справы з свайго сапраўднага стану і матываў гэтага несупакою. Злуюцца на іншых, часам бяз дай прычыны, дакараюць, гавораць глупствы, якіх у душы самі шкадуюць. У нармальных умовах непаразуменьняў так-жа не бракуе, але іх хутчэй можна палагодзіць. На эміграцыі-ж і драбніца можа стацца паважнаю справаю. Можна быць пэўным, што зусім інакшым было-б жыцьцё, калі-б у галавах ля кожнае цярпячае эмігранцкае душы стаяла моцная надзея. Таму надзея і як багаслоўская цнота, і як грамадзкі дзейнік мусіць стацца верным спадарожнікам нашага жыцьця. **а. Леў.**

# ЦУДЫ СЬВ. ЕЎФРАСІНІ

Хоць і не абавязкава, але вельмі часта сьвятасьць людзей выяўляецца навонках над'звычайнымі ўчынкамі, якія перавышаюць прыродныя людзкія магчымасьці і называюцца цудамі. У сучаснай царкоўнай практыцы для залічэньня ў лік сьвятых вымагаецца побач гэройскіх цнотаў падчас дачаснага жыцьця сьвятога, яшчэ два цуды ўчыненыя дзеля заступніцтва данага сьвятога. Аднак нельга думаць, што цуды гэта істотная азнака сьвятасьці. Ёсьць аграмадная колькасьць сьвятых, напрыклад мучанікаў за часоў першага хрысьціянства, з імёнамі якіх ня зьвязаны ніводзін цуд. Істотнаю азнакаю сьвятасьці чалавека ёсьць гэройская цнота ў дачасным жыцьці, а цуды ўважаюцца Божым знакам для выяўленьня гэтае цноты.

Сьвятасьць Еўфрасіні Полацкае выяўлялася перадусім у паважным ушляхотнюючым уплыве

на асяродзьдзе, у якім жыла, і на агульнаграмадзкае жыцьцё. Аднак і цудаў не пашкадаваў Бог, каб уславіць яе.

У жыцьцяпісе сьв. Еўфрасіні апавядаецца толькі пра два цудоўныя здарэньні; абодва зьвязаныя з будоваю царквы сьв. Спаса. Першае — гэта закліканьне будаўнічага Івана, каб сыпяшаўся з будоваю царквы; другое — гэта цудоўнае памнажэньне цэглы для заканчэньня царквы. Аб абодвых гэтых здарэньнях ужо апавядалася раней падчас апісаньня жыцьця сьв. Еўфрасіні.

Звычайна найбольш цудадзейную сілу выяўляюць сьвятыя пасьля свае сьмерці і вялікую ролю пры гэтым маюць мошчы. Відаць дзеля таго, што цела сьв. Еўфрасіні знайходзілася далёка на чужыне і ў пашырэньні яе культу было шмат перашкодаў гістарычна-дзяржаўнага характару, дык яна ня уславілася цудамі і па сьмерці. Яе ніколі не называлі цудатворцаю. Аднак дзякуючы яе заступніцтву цуды дзеяліся, толькі няма вестак, ці хто да гэтага часу займаўся рэгістрацыяю гэтых цудаў.

Карыстаючы з прыпадкавых вестак даведваемся, што адно такое цуда сталася падчас пераносу мошчаў сьвятое з Кіява ў Полацк. Гэтае цуда было дакладна прасьледжана і навукова сьцьверджана. Весткі аб ім падае сябра Віцебскае Навуковае Камісіі Нест. Кайгородоў і д-р мэд. А. М. Мансветаў — абодва асабіста займаліся справаю цудоўнага аздараўленьня чарніцы Н. (поўнага імені чамусьці не падаюць). Успомненая чарніца Н. Спаса-Еўфрасінінскага манастыра ў Сяльцы доўгі час хварэла на круглы верад страўніка, часта мела страўнікавыя крывацечы і ваніты з крывёю, дзеля гэтага была вельмі выснажаная і абясьсіленая. Узімку 1910 г. яна заўсёды была ў ложку, ледва магла падымацца, аджыўлялася толькі вадкаю справаю і ўканцы ўжо хвароба так даймала, што болі страўніка даводзілася сунімаць наркотыкамі. Агульны стан здароўя пагоршваўся з дня на дзень і д-р А. Мансветаў ня меў надзеі на яе аздараўленьне. Вясною 1910 г. перад унясеньнем мошчаў сьв. Еўфрасіні ў Полацк лекар стараўся падбадзёрыць хворую і зрабіў ёй два ўколы спэрніна праф. Пэля, але ад гэтага хворай ня было ніякага паляпшэньня і 19 травеня яна ледва-ледва магла ўзьняцца ў ложку, наракала на галавакружэньне, ацёк у нагах, на слабасьць, болі, ваніты з крывёю і на піролежні.

Калі 22 травеня прынесена мошчы сьв. Еўфрасіні з Полацку ў Сялец і пастаўлена іх ува Узьдзьвіжанскай царкве, тады пасьля ўсяночнае аграмадныя натаўпы вернікаў доўга пачарзе цалавалі мошчы сьвятое. Хворая чарніца Н. так-жа захацела ўшанаваць мошчы сьв. Еўфрасіні і прасіла, каб яе завялі ў царкву. Дзьве сястры чарніцы выканалі яе просьбу і пасьля кароткае малітвы за хворую ўзьнялі яе на памост, дзе знаходзіліся мошчы, і хворая прыславілася да мошчаў і пацалавала руку сьв. Еўфрасіні. У гэткім палажэньні яна затрымалася колькі хвілін непарушна і сагнуўшыся. Раптам хворая пачула ў сабе якуюсьці нязвычайную сілу і бадзёрасьць, сама ўзьнялася і выпрасталася бяз усякае помачы сясьцёр і сама зышла з памосту, на якім знаходзіліся мошчы і сама вышла з царквы, славячы Бога і сьв. Еўфрасіню за цудоўнае аздараўленьне ад доўгатрывалае хваробы.

Вестка аб гэтым хутка разьнеслася па ўсёй ваколіцы. Д-р Мансветаў даведаўшыся аб аздараўленьні наступнага дня (23 травеня) прышоў у манастыр, каб навочна пераканацца аб праўдзівасьці здарэньня. Калі ён увайходзіў у манастыр, яму на сустрэчу бегла ягоная ранейшая безнадзейна хворая пацыентка чарніца Н.; ніякіх азнакаў хваробы ў яе ўжо ня было. Д-р Мансветаў дадае, што гэная чарніца лячылася раней ў іншых лекараў у Полацку і нават езьдзіла ў Кіяў, і аб яе безнадзейным стане могуць сьведчыць усе гэтыя лекары разам з чарніцамі манастыра і некаторымі жыхарамі Полацку і Сяльца. Сам лекар шчыра пераканаты, што ў «гэтым выпадку маецца дачыненьні із зьявішчам, якое пераходзіць межы людзкога разуменьня».

Магчыма, што ў манастырскай хроніцы былі запісаны іншыя падобныя выпадкі, але сам манастыр сёньня ня існуе і хроніка няма ведама дзе.

Адносна вышэйапісанага цуда заўважвае сябра Віцебскае Навуковае Камісіі Н. Кайгородоў: «Ледва ўсьпела сьв. і прэпадобная Еўфрасіня, Княжна Полацкая у сьвятых сваіх мошчах уступіць пад скляпеньні свае абіцелі, як вачывідкі выявілася цудадзейная сіла яе сьвятых мошчаў над адною з сёстраў манастыра, якая з вераю чакала яе павароту».

А ўвесь беларускі народ чакае ад свае патронкі большага цуда і верыць, што міласэрны Бог ажыцьцявіць гэтыя надзеі дзякуючы заступніцтву сьвятое Еўфрасіні.

**а. Л. Гарошка.**

# Да праблемаў беларускае гісторыі

Людзі родзяцца роўнымі. Узьнятая на прынцыповую вышыню перадавымі імкненьнямі «прасьветнага» руху XVIII стагодзьдзя, узгадаваная змаганьнямі перадавых колаў эўрапэўскае і паўночнаамэрыканскае грамады ў канцы XVIII і на пачатку XIX веку, гэтая праўда ў наш час увайходзіць станоўкай асновай сьветаразуменьня сучаснага культурнага сьвету. У сваёй існасьці гэтая формула ў першую чаргу мае справу з падзелам людзкасьці ў межах кожнае нацыянальнае грама-

ды на вышэйшая «шляхотныя» і на ніжэйшыя «подлыя» ці «нізкія» угрупаваньні. У свой час людзкія грамадзкія і дзяржаўныя арганізацыі ўсе былі падзеленыя і парэзаныя на асобныя катэгорыі, адменныя адна ад другое сваім праўным (у першую чаргу), а далей — маемасным, асьветным, бытавым і г. д. палажэньнем. Адменныя звычаі дзялілі гэтыя грамадзкія групоўкі адну ад другое; адменнай была вопратка і нават мова.

У гэты час станавых, ці (на ўсходзе) каставых падзелаў унутры кожнае грамады і дзяржавы формула людзкое роўнасьці вызначала сабою вялікі крок наперед і кірунак глыбока пазытыўнага руху.

Гэты рух і гэты кірунак, для нас, ацэньваючых яго з воддалі мінулых вякоў, выяўляецца ажыцьцяўленьнем хрысьціянскае маралі і рэлігіі, якая ў вучэньні Хрыста не рабіла розьніцы між знатным і нізкім, багатым і бедным, адукаваным і няпісьменным. Значыць формула людзкое роўнасьці ў сваёй ідэйнай аснове дапамагала людзтву ступіць на чыстыя і сьвятыя шляхі запаведаныя ў Эвангельскім вучэньні.

Людзі родзяцца роўнымі. Гэтая формула можа быць узята і ў іншай плашчыне: у плашчыне роўнасьці ці няроўнасьці між сабою асобных плямёнаў, народаў, нацыянальнасьцяў. Мы ведаем спробы адмоўнага адказу на гэтую формулу. Узьнесеныя на вышыню прынцыповага пастуляту ў тэарэтычных і арганізацыйна-тактычных пазыцыях (і большасьці іншых падобных) нацыянальна-сацыялістычнага руху. Гэтыя пастуляты няроўнасьці павялі за сабою мільёны людзей, каб у выніку нячуванай паразкі перараканаць людзтва ў іх арганічнай няпраўдзе.

Людзі родзяцца роўнымі паміж сабою і тады, калі яны падзеленыя на асобныя нацыянальныя грамады. Гэтая формула і ў гэтым варыянце ў поўнай меры асноўваецца на вялікіх прынцыпах і ідэях хрысьціянскае веры, асноўнік якое ня ведаў і не казаў рабіць розьніцы «паміж эльлінам і іудэям».

Калі так, дык ці можна адсюль вывесьці вынік поўнай аднолькавасьці паасобных людзей між сабою і — у свой чарод — асобных народаў і нацыяў паміжсобку? Для нас ясна, што гэта ня так. Асабліва гэта ясна, калі йдзе мова аб асобных людзкіх істотах, якія, як мы ведаем, адрозьніваюцца між сабою яснымі рысамі індывідуальных адмен. Але можна згадзіцца, што ў такой-жа меры гэтыя адмены наяўныя і ў дачыненьні да асобных народных грамадаў. Іх дзеліць між сабою ня толькі адменныя мовы, звычаі, вопратка, сьпеў і пад. Іх падзляюць ня толькі рэлігійныя вераваньні; ня толькі розны стан адукацыі і асьветы, праўных пaглядаў і палітычнай арганізацыі, але ў якойсьці меры і ўвесь характар усяго агульнага тыпу кожнага народу.

Наяўнасьць гэтых розьніц — бясспрэчная. Яны існуюць і ў нашы часы, хоць бязумоўна цяпер выяўляецца тэндэнцыя і магчымасьць зьменшаньня гэтых розьніц і нівэляцыі асаблівасьцяў кожнага народу ў выніку узьдзеяньня на іх аднолькавых культурна-асьветных фактараў.

Наяўнасьць гэтых адменных рысаў прыводзіла да таго, што гістарычнае разьвіцьцё кожнага асобнага народу ішло ў пэўнай меры асобнымі і сваеасаблівымі шляхамі.

Пры гэтым, калі гаворым пра сваеасаблівасьці ў гістарычным шляху кожнае нацыі, ставім гэтае правіла ў пэўныя межы. Аднак ёсьць пэўныя асноўныя кірункі разьвіцьця і прагрэсу цэлых камплексаў людзкіх саюзаў. Гэтыя камплексы прыводзілі да супольных рысаў у гістарычным разьвіцьці эўрапэйскае групы народаў, азіяцкае, амэрыканскае і г. д. Аднак супольныя рысы давалі толькі зусім агульным падобнасьці, не замінаючы гістырычнаму разьвіцьцю кожнага асобнага чалавека эўрапэйскае, азіяцкае і ўсякае іншае грамады мець тысячы асобных розьніц у сваім канкрэтным выяўленьні асноўных і супольных рысаў агульнага паступовага руху.

Якраз так паўстае асобная гісторыя кожнае нацыі і якраз так яна мае дасьледвацца, вывучацца і выкладацца. Увага да асобных і сваеасаблівых адменаў і рысаў чыста нацыянальнага характару робіць такое вывучаньне, дасьледваньне і выкладаньне адзіна правільным і глыбока цікавым ня толькі для сяброў данае нацыянальнае грамады, але і для іншых, якія ў свой чарод могуць лепш пазнаць і лепш ацаніць гістарычны шлях свайго народу, параўняўшы яго з гістарычным разьвіцьцём іншых народаў. Разуменьне супольнасьці агульных рысаў і кірункаў разьвіцця для цэлых народных і міжнародных камплексаў дае магчымасьць ня зблудзіць у падкрэсьліваньні асобных рысаў, але праўдзіва і адпаведна зразумець і ацаніць гэтыя рысы, паставіўшы кожную з іх на сваё, адпаведнае мейсца.

І яшчэ — і гэта менавіта важна — такое камплекснае вывучэньне сувязі і ўзаемнага зьвязку гістарычнага разьвіцца належачых да супольных камплексаў народаў, даюць магчымасьць намеціць сноўны шлях і кірунак іх будучага стану. Калі кожны з іх крок па кроку пераходзіў і перамагаў этапы папярэдняга стану, якія этапы мае прайсьці ён цяпер, за што мае цяпер змагацца, якія перашкоды стаяць на ягоным шляху і якія пэрспэктывы, ды якія надзеі іх перамагчы? І — нарэшце — куды пойдзе гэты (і іншы) народ далей, для чаго ён змагаецца, для чаго праліваюць кроў людзкія пакаленьні, што маюць яны дасягнуць у будучыні, калі найцяжэйшыя перашкоды будуць пераможаны? І ці гэтая будучыня прыблізіць людзтво да тых асноваў сьвятое маралі, якую прапаведаў Божы Сын, прышоўшы на многапа-

кутную і многагрэшную зямлю, каб ўратаваць людзтва, даўшы кірунак для шляху вызваленьня і ратунку?

Толькі ў сувязі ўсіх гэтых праблемаў можна правільна адказаць і на праблемы гісторыі Беларусі. Трэба пашкадаваць, што да гэтага часу ў гэтай частцы мала што зроблена ў дасьледжваньні беларускае гісторыі. Тымчасам перад правільным зразуменьнем гэтае гісторыі і беларускага народу стаіць цэлы шэраг пытаньняў і праблемаў, якія валадарна дамагаюцца адказу і разьвязкі. Сапраўды: ці гісторыя Беларусі ёсьць зусім асобная і непадобная да гістарычных шляхоў іншых народаў, ці наадварот — яна ёсьць часткаю шырэйшага кампдексу агульнага гістарычнага разьвіцьця часткі людзкасьці эўрапэйскага кампдексу? Калі так, дык якое мейсца займае гісторыя Беларусі ў гэтым разьвіцьці? Калі гэтае мейсца неаднолькавае і этапы іншыя, дык якія ёсьць адмены ў гэтым палажэньні? І якія этапы ёсьць агульнымі ў разьвіцьці беларускае нацыі і іншых эўрапэйскіх нацыяў? Ці быў на Беларусі «родавы быт», «племенныя дзяржавы», фэадалізм, станавая грамада, мадэрны «капіталістычны» лад і г. далей? Якія характэрныя адмены ў беларускім фэадалізьме, станавой грамадзе ды іншых этапах разьвіцьця ў параўнаньні з адпаведнымі этапамі гістарычнага прагрэсу іншых эўрапэйскіх народаў? Ці знала Беларусь уздымы магутных ідэйных рухаў, якія ўскалыхвалі эўрапэйскі сьвет моцнымі ўзбуджаньнямі і як гэтыя рухі тут выяўляліся? Якія, нарэшце, рысы чыста індывідуальна-народных азнакаў былі характэрнымі для беларускіх гістарычных дзеячоў? Чаму, напрыклад, беларуская гісторыя ня ведае постацяў на ўзор Івана Грознага, ці Людовіка XI, ці, скажам, Багдана Хмяльніцкага?

І такіх пытаньняў можна было-б паставіць яшчэ нямала. Адказ на іх ёсьць неадменным, калі мы сапраўды хочам пазнаць Беларусь, яе народ, ягоную культуру і гісторыю, ягонае мейсца ў грамадзе эўрапэйскіх (а далей і сусьветных) народных супалак.

Мы верым, што поўны і абаснаваны адказ на гэтыя асноўныя праблемы будзе магутным і незапярэчным довадам прынцыповай роўнасьці беларускага народу з усімі іншымі людзкімі грамадамі сьвету, і — калі так — ягонае права на асобны і вольны шлях у дасягненьні супольных для ўсяго людзтва вялікіх заданьняў.

**Л. А-ч.**

# „Браты, не забывайцеся нас!“

Ужо пяты год прадаўжаецца ў Эўропе вынятковы стан ні вайны ні міру. Палітыкі называюць яго халоднаю вайною, а эміграцыя магла-б назваць станам зводнага чаканьня. Як ні прыкры гэты стан, але ўжанцы да яго людзі неяк звыкаюцца. Цяжкія абставіны гэткага жыцьця змушаюць к о ж н а г а больш, як звычайна клапаціцца, каб здабыць кусок штодзеннага хлеба. І гэтыя турботы так займаюць чалавека, што няраз забываемся аб найважнейшай мэце нашага эміграцыйнага стану.




Мы пакідалі бацькаўшчыну не таму, што там не здабылі-б сабе на пражыцьцё і не таму, каб толькі ратаваць сваё жыцьцё, бо яго ўсёроўна калісь страцім і ад магілы не ўцячом, але таму, каб вярнуцца вольнымі на вольную бацькаўшчыну; а да таго часу, каб быць на эміграцыі рэчнікамі свайго паняволенага народу.

Забывацца аб гэтым мы ня можам і ня маем права, бо з-за зялезнае заслоны на нас скіраваны вочы ўсяго народу. І ня выканаць іхных спадзяваньняў, ня выканаць тых заданьняў, якія выпалі на нашу долю з волі Бога, было-б ня толькі вялікім праступствам супарць свайго цярпячага народу, але і вялікім грахом.

Як усюды, так і на эміграцыі можна стрэнуць розных людзей. Няма патрэбы дзяліць іх на катэгорыі, бо і так эміграцыя нямала падзеленая на розныя партыі і

групы. Між гэтымі партыямі можна стрэнуць такіх людзей, якія думаюць, што гэата толькі адзінкі «на сэрцы маюць путы і з народам імі скуты», і што гэта толькі ў іх народная справа «ляжыць каменем на сэрцы», як казаў Я. Купала. Пэўна-ж заўсёды ёсьць адзінкі, якія больш шчыра ўспрыймаюць свае абавязкі, гэта праўда, але няма нікога, хто быў-бы зусім вольны ад усякіх абавязкаў супраць агульнанароднае справы. Кожны паводля свае здольнасьці павінен прыслужыцца да агульнага дабра і павінен выканаць чэсна і сумленна тое, што выпадае на яго долю. Ні стары, ні малы, ні інтэлігэнт, ні работнік — ніхто ня зволынены ад гэтага абавязку.

У адным лягэры, прыслухоўваючыся да гутаркі юнакоў-скаўтаў аб працы для грамадзкага дабра, пыталася старая бабулька: «Ну, што я магу рабіць?» А тыя ёй адказалі: «Як-та што?! А хто-ж можа больш шчыра маліцца, як вы! Дык вось малецеся за тых, на якіх узложана большая грамадзкая адказнасьць, каб Бог даў ім сілу і розум належна выканаць гэтыя абавязкі, а найбольш за тых, якія дзеля агульнага дабра не шкадуюць жыцьця і можа ў гэтую хвіліну глядзяць сьмерці ў вочы...» Ні словам ня супярэчыла на гэты адказ, бабулька, і ня пыталася больш.

Шмат ёсьць у радох эміграцыі людзей, якія нічым, акрамя асабістых спраў, ня цікавяцца і нічога ня робяць для грамадзкае справы. Не пахвальны гэты факт, але ёсьць і такія, якія сваю бязьдзейнасьць стараюцца прыбраць у «патрыятычную вопратку». Не навіна стрэнуць такіх «дзеячоў», якія апустошваючы шклянкі і бутэлькі віна, ці іншае гары, не забываюцца прыгаворваць да сабутыльнікаў: « Ну, вып'ем, каб жыла Беларусь!» і на гэткія патрыятычныя тосты могуць аддаць апошні грош, але на грамадзкую справу і ломанага гроша не дадуць. Ці ад гэтых тостаў Беларусі карысьць будзе? І пытацця ня трэба. Але шкоды можа быць шмат.

Не бракуе і такіх патрыётаў, якія свой патрыятызм выказваюць у зьняслаўліваньню беларускіх дзеячоў; на гэткую дзейнасьць не шкадуюць яны ні грошаў ні часу.

Няма патрэбы пералічаць іншых адмоўных зьявішчаў эміграцыйнага жыцьця. Ня варта было-б закранаць і вышэйуспомненых, але-ж мы мусім ведаць ня толькі нашыя заданьні, але і нашыя слабасьці, балячкі нашае эміграцыйнае сям'і і калі дзе магчыма, дык гэтыя слабасьці пастарацца вылечыць, прынамся зьвярнуць увагу ў кругу сваіх людзей на неадпаведныя паводзіны сваіх суродзічаў, але не ў такой форме, каб распальваць гэтыя слабасьці, толькі каб сапраўды памагчы. Калі-ж спакойнае і прыязнае заўвагі нехта не паслухае, дык ня варта траціць часу і энэргіі на бясплоднае ўзаемнае змаганьне. І Хрыстос радзіў пакінуць, як мытніка і паганіна таго, хто не паслухае справядлівых дакораў брата, грамады і Царквы (Матв. XVIII, 15-17).

Узаемнае змаганьне толькі аслабляе нашы сілы, адцягвае ўвагу ад галоўнае мэты і псуе добрае імя, а гэта супярэчыць нашым абавязкам.

Абавязкам беларускае эміграцыі ёсьць: дбаць аб добрае імя беларуса; паказаць, што ён чэсны маральны, працавіты і гідзіцца распустаю і п'янствам. Якія будзем мы, такое будзе ў чужынцоў паняцьця аб усім беларускім народзе.

Беларускі народ на бацькаўшчыне нясе цяжкое ярмо зьдзеку і мае замкнёныя вусны, — мы мусім абвесьціць на ўвесь сьвет аб гэтым зьдзеку.

Народ на бацькаўшчыне цярпіць страшэнныя крыўды і ад яго яшчэ вымагаецца славіць крыўдзіцеляў — мы на эміграцыі маем свабоду і мусім за ўвесь народ сказаць праўду ўсяму сьвету аб гэтай крыўдзе.

Народ на бацькаўшчыне грабяць акупанты да апошняга і руйнуюць тое, што было створана вякамі, — мы на эміграцыі, зарабляючы на штодзенны хлеб, не забудзьмася злажыць складку на агульнабеларускую справу.

Народ на бацькаўшчыне пазбаўлены права тварыць свае нацыянальныя арганізацыі, выяўляць сваё нацыянальнае аблічча, тварыць і разьвіваць сваю культуру, — мы мусім на эміграцыі выканаць гэтыя заданьні.

На бацькаўшчыне пазакрываныя сьвятыні, а дзе ёсьць адчыненыя, дак на тое, каб у іх больш, як Бога, славіць бязбожную ўладу, — мы на эміграцыі мусім і за сябе і за ўвесь народ аддаць належную пашану Богу і молячы і славячы Яго.

Калі магутныя гэтага сьвету занятыя сваімі меркаваньнямі, ня хочуць, ці ня маюць часу пачуць стогнаў беларускага народу, дык мы мусім ім зьвярнуць на гэта ўвагу. Мы маем поўнае права і абавязак прыпомніць усім той гістарычны факт, што калі да шаснаццатага веку Беларусь на сваіх плячох устрымоўвала націск Усходу, тады маглі спакойна існаваць і разьвівацца на Захадзе нават дробныя дзяржавы. А калі Беларусь, зьнявможаная векавым змаганьнем, была пераможана, дык ад таго часу і магутныя дзяржавы Захаду ня маюць супакою.

На нас глядзяць з-за зялезнае заслоны вочы нашых братоў і сясьцёр, а іхныя вусны шэпчуць: «Браты, не забывайцеся нас!». **Пабратымы.**

# ТЫ І ЯНА

Разьдзел 8-ы (Працяг 11-ы)

Вока Божага Праваду сягае бязьмежна далёка. У нармальных абставінах гадуецца хлапец у асяродзьдзі сваіх сёстраў, дзе вузлы брацкай любові вяжуць іх у адну сям'ю. У здаровых адносі-

нах для хлапца сёстры ёсьць чымсь бясплоцьным. На нейкае плоцьнае ўзварушэньне тут няма мейсца. У сужыцьці з сваею сястрою хлапец павінен паказаць сваё рыцарства; уважаць сваім абавязкам бараніць сястру, як слабейшую, памагаць ёй, служыць парадай і, адкінуўшы ўсякі тон загаду, прысвоіць сабе ў адносінах да яе быць ветлівым і далікатным. Родныя ў сям'і, каторыя добра разумеюць адзін другога, ўзаемна сабе памагаюць, падобна, як сужонкі, з тым аднак выняткам, што плоцьны нахіл тут ня грае ніякае ролі. Гэтак зусім натуральна і, быццам нясьведама, малады чалавек здабывае тое рыцарства, якое ён павінен выяўляць перад кожнай дзяўчынай.

Самазразумела, што яму здараецца пры сястры спатыкацца з яе сяброўкамі, што-ж тады больш натуральна, як тое, што ён будзе вясьці сябе ў адносінах да іх так, як і ў адносінах да сястры? Калі-б хтосьці пасьмеў быць нахабным у адносінах да яго сястры, дык ён заступіўся-б за яе са шляхотным абурэньнем. А ў далейшым ці-ж могбы ў адносінах да сястры іншага пазволіць сабе на думкі ці выступы, за якія асудзіў-бы найбольш сурова каго іншага за падобныя выступы пад адрасам да свае сястры? Ён павінен навучыцца гэтак захоўвацца ў адносінах да кожнай дзяўчыны, як жадаў-бы, каб іншыя захоўваліся ў адносінах да ягонай сястры. Тут можна датарнаваць прыказку: Не рабі другому таго, што табе ня міла».

Вельмі важнай рэччу ёсьць тое, каб дарастаючы хлапец заразумеў вялікае пакліканьне жонкі і маткі. Найпрыгажэйшы прыклад што да гэтага ён павінен мець у асобе свае маткі. Але яму трэба вучыцца йсьці жыцьцёвым шляхам з адчыненымі вачыма і ўглядацца ў нутраныя скарбы жанчын, каб не дазволіць зьвясьці сябе вонкавымі прывабамі і гожасьцю. Трэба, каб яго пагляд на жанчын тварыўся ня з пустых гутарках распусных сяброў, не паводля нашэптаў пажадлівасьці, але паслухаўшы радаў дасьведчаных і жадаючых яму дабра людзей.

У адносінах маладога чалавека да жаночага сьвету рашаючае значэньне мае той факт, як адносіцца да акту сужэнскіх суадносінаў. З той хвілінай, калі ён пазнаў Божы лад размнажэньня людзкога роду, у ягонай душы пачынаюць змагацца розныя пагляды на жанчын. Тут якраз прыходзіцца яму здабыць шляхотнае хрысьціянскае паняцьце сужэнства, годнасьці бацькі і маці. Хто пойдзе за паганскім духам сучаснага сьвету і сваімі палкасьцямі, той прысвоіць сабе і паняцьце сужэнства, якое мае гэты сьвет і будзе глядзець на жанчыну, як на прадмет сэксуальнае гульні. Вера аднак нас вучыць, што сужэнства ёсьць сьвятыняю, ў якой чалавек мае змогу ўдзельнічаць да пэўнае ступені ў дзейнасьці Бога-Тварца. Хрыстос падняў сужэнства га годнасьці сьвятое Тайны.

Стацца бацькам — гэта значыць мець права да неапісанага шчасьця, але так-жа прыняць нявыказаную адказнасьць перад Богам і перад людзьмі. Сужэнская адданасьць аднаго другому толькі тады ёсьць годнай чалавека, калі яна ёсьць вынікам, Богам данае і асьвячанае сьвятой Тайнай Сужэнства, любові.

Вось такія паняцьці павінны ўтварыцца ў душы маладога чалавека. Тады бяз сумніву ў яго характары ўкараніцца чэсьць ад маткі і годная паўстрыманасьць перад кожнай дзяўчынай.

Хто жадае стацца годным мужчынай з шляхотнай душою, той павінен з найвялікшай пільнасьцю ўнікаць усяго, што магло-б спрычыніцца да перамогі ў ім нізкага гону; гэта зн. чытаньня дрэнных кніжак, баламутных сяброў, падазронных кінаў і тэатраў, брудных і двузначных гутарак і пад. Павінен сьцерагчы свае думкі і калі пачынаюць разгарацца брудныя лятуценьні, тушыць іх. Ён павінен старацца, каб аб жанчыне думаць толькі чэсна і каб здабываць больш і больш разуменьня для яе высокага пакліканьня жонкі і маткі.

Бяз сумніву для маладога чалавека вельмі карысна, калі ў час яго дасьпяваньня ніякая жаночая асоба ня стане яму ў папярок дарогі, каб замуціць, або абцяжыць ціхі працэс яго разьвіцьця, ці накіраваць яго духовасьць у падазронным кірунку. У гадох, калі ўсё мае на сабе знак пераходнасьці, калі малады хлапец ня ёсьць яшчэ сам сабой і ягонае разьвіцьцё не закончанае, зьбліжэньне да нейкае дзяўчыны з намерам запрыязьніцца, пагражала-б вялікай небясьпекай. Мы ўжо бачылі перш, што сяброўства паміж двумя равесьнікамі можа быць вельмі пажаданае і карыснае, але паміж юнаком і дзяўчынай яно блізу заўсёды канчаецца любошчамі. Толькі тады, калі хлапец і дзяўчына гадуюцца асобна, яны могуць вырасьці і расквітнець на поўнавартасных мужчын і жанчын.

Гэта аднак ня значыць, што для маладых людзей рознае плоці адкідаецца ўсякая магчымасьць спатыкацца, напр., на грунце сямейных урачыстасьцяў, рабіць супольныя прагулкі пад апекай бацькоў ці старэйшых, або каб ня ўдзельнічалі ў добрых гульнях. Наадварот, такія нагоды дзякуючы акурат прысутнасьці дзяўчат маюць для юнака асаблівы пацяг. Пры гэтай нагодзе ён будзе мець магчымасьць назіраць жаночую красу і гожасьць ды адчуць іхняе дзеяньне на сабе, цешыцца ёю, нават захоплівацца, як іншымі творамі мастацтва Тварца. Але акурат пры гэткіх абставінах ён будзе мець нагоду апанаваць сябе, трымаць на прывязі свае нізкія думкі і жаданьні, калі-б яны спрабавалі адазвацца. Тады выявіцца, ці змог дайсьці да праўдзівага рыцарства, да шляхотнай чэсьці для годнасьці жанчыны. Ён павінен навучыцца любавацца красой дзяўчыны гэтак, каб пажадлівасьць не накідала яму свае ўлады.

Арганізацыйны рух сярод моладзі ў апошніх часох набірае вялікага размаху, але адначасна, і на вялікі жаль, ня раз прымае формы, якія могуць прынесьці вялікія шкоды для моладзі. Шмат небясьпекаў крыецца ў саюзах, якія гуртуюць разам моладзь рознае плоці. Такія супольныя групы. у каторых хлапцы і дзяўчаты часта спатыкаюцца ў зусім неадпаведных умовах, маюць шматлікія шкодныя наступствы. Ужо тое адно ім паважна шкодзіць, калі адны і другія губляюць свае прыметы; калі хлапцы стаюцца «бабамі», а дзяўчаты захворваюць на бязглуздую амбіцыю быць мужчынай. Галоўнае аднак зло пранікае, маральную галіну. Хочаш, ня хочаш — паўстаюць знаёмствы і звязваецца нясьпелае каханьне, што спрычыняецца да эротычных пабуджэньняў, а пры адсутнасьці апякунчага вока, гэта вядзе да цяжкіх праступстваў.

Праўда, ня раз гутарыцца, што было-б пажадана, каб маладыя хлапцы ў дзяўчаты прывыкалі да пэўнага нявымушанага і нявіннага прабываньня з сабою. Але гэткая думка ёсьць вельмі ідэальнай. Прыклады штодзеннага жыцьця сьведчаць аб чым іншым. Вось адзін з нязьлічаных:

Пяць скаўтаў высокага палёту і старшых гімназістаў стварыла кружок для чытаньня. Нехта кінуў думку: ці ня варта было-б запрасіць у кружок некалькі дзяўчат. Справу доўга абмяркоўвалі. Адзін быў рашуча супраць, другі так-жа ня мог на гэта наважыцца. Апошніх трох перамаглі. Мэтай гэтага заклiку сяброваk мела быць: пасьля прачытаньня кніжкі пазнаёміцца з сьветам зацікаўленьня дзяўчат і прывыкнуць да вольнага і нявіннага прабываньня з імі. Запрасілі дзьвёх сёстраў у гадох 19 і 21, каторыя так-жа вучыліся. Для ўсіх пяцёх было справай вырашанай, што аб каханьні ня можа быць і гутаркі.

На пачатку ўсё было добра. Аднак хутка распачаўся флірт. Трох, якія правялі свой плян, заўважылі, што яны зусім добра разумеюцца з дзяўчатамі. Не ўспамінаючы іх прозьвішчаў, назавём іх А. Б. В. Перш абудзілася зайздрасьць у А і Б, бо абодва пачулі нахіл да малодшае з сясьцёр. А, убачыўшы безнадзейнасьць навязаньня бліжэйшых суадносінаў, выракся іх, хоць гэта не абышлося бяз унутранае барацьбы. Аднак дзеля розных асабістых пачуцьцяў і нахілаў, сапраўднае зацікаўленьне кружком аслабла, дый сам кружок хутка перастаў існаваць. Нядоўга пасьля старэйшая сястра заручылася з кім іншым, а яе адаратар з кружка чуўся падведзеным і зломаным. Хаця дзяўчына спачувала яму, не магла ні ў чым памагчы. Б загубіў праз гэтае нясьпелае каханьне свой ідэальны палёт; спадабалася яму сэксуальная непаўстрыманасьць і ён кінуўся ў вір дрэнных гульняў. А, каторы расказаў усю гэтую гісторыю, знаў яшчэ некалькі такіх кружкоў, у каторых таксама здараліся падобныя рэчы. Калі толькі кружкі ставаліся мешанымі, адразу пачыналіся любошчы і зайздрасьць. Самыя кружкі пераставалі існаваць, а далейшым наступствам быў маральны ўпадак і вялікія духовыя страты.

Як было ўжо заўважана перш, ня можна быць супраць таго, каб пры бацьках, ці адпаведным доглядзе моладзь спатыкалася з сабою пры розных нагодах. Але ўсялякія рэгулярныя зборкі ці то на ўроках танцаў, ці на рэпэтыцыях да тэатральных выступаў, ці іншых бескантрольных сходках, дзе пабуджаюцца эротычныя пачуцьці — усё гэта рэгулярна вядзе ад розных фліртаў і нясьпелага каханьня. Заўсёды знойдуцца такія, што паддадуцца чару іншае плоці, або і такія, што ўсяго й цікавяцца гэтымі зборкамі пастолькі, паколькі там ёсьць нагода да зблiжэньня. Таму малады чалавека, які выбіраецца на падобныя гульні, дзе спаткаецца з дзяўчатамі, павінен сабе ясна ўсьведаміць, чаго ад яго вымагае ў такім асяродзьдзі праўдзівае рыцарства. Ён мусіць умець захаваць сваю асабістую годнасьць і акялзаць свае пачуцьці, каб яны яго не панесьлі куды ня сьлед.

Бывае, што заняцьце ці прафэсыя змушаюць хлапцоў і дзяўчат працаваць разам. Тут выстаўляецца на пробу шляхотнасьць духу юнакоў. Адны з іх бястурботна выкарыстоўваюць такія абставіны, каб якнайхутчэй пазнаёміцца з дзяўчатамі і завязаць любошчы. Іншыя, наадварот, і тут умеюць быць самі сабою. Яны не папускаюць цуглі, калі будзяцца нячыстыя думкі і прыходзяць да голасу цялесныя гоны. Да сяброўкі працы адносяцца з шчырай ветлівасьцю, але так-жа з поўнай годнасьцю і ўстрыманасьцю. Яны маюць на ўвеце залатое правіла: абходзіцца з дзяўчатамі так, як-бы сам жадаў, каб абходзіліся з яго сястрой, ці пазьнейшай «сваёй» дзяўчынай. Калі ёсьць праўдай, што характар вырабляецца ў змаганьні за жыцьцё, дык гэта адносіцца так-жа да праўдзівага рыцарства, каторае толькі тады можа дайсьці да поўнага разьвіцця, калі малады чалавек мае магчымасьць праявіць яго ў тых нагодах, якія дае нам штодзеннае жыцьцё.

Трэба так-жа памятаць, што рыцарства гэта ня толькі вонкавыя таварыскія формы: першаму вітаць жанчын, уступаць ім мейсца, ісьці з левага боку, або ад вуліцы, як гэта прынята ў Англіі. Усё гэта тады мае вартасьць, калі ёсьць вынікам шчырае, паважнае ўнутранае чэсьці і глыбокага перакананьня. Інакш тыя вонкавыя формы будуць аблуднай маскай, якая прыкрывае ўбоства і немач рыцарскага духа.

Рыцарства мае так-жа праявіцца ў абароне слабых і хісткіх. Можа здарыцца маладому чалавеку, што дзяўчаты, каторыя згубілі ўнутраную маральную сілу, самі накідаюцца яму, каб сваімі залётамі заблытаць яго ў немаральную твань. Яны чакаюць толькі якогась знаку, ці погляду, каб аддац-

ца зусім. І тут справа ў тым, ці юнак астанецца верны сваім прынцыпам, ці не. Ці ён сваім рыцарствам падтрымае іх і гэткім чынам паможа ратавацца тым няшчасьніцам, ці сапхне іх ніжэй у балота. Колькі з тых няшчасных падае ўсё ніжэй дзеля таго, што не натрапілі на такога мужчыну, каторы паказаў-бы зацікаўленьне да годнасьці жанчыны. Не адна магла-б яшчэ захавацца нявінай, калі-б яна спаткала чалавека, каторы замест таго, каб выкарыстоўваць яе слабасьць, падаў-бы ёй моцную далоню і памог-бы падняцца. Такога гэроя яна-б не забылася да сьмерці.

Ня варта нават прыпамінаць, што асобаў, якія проста прадаюцца, малады чалавек не пвінен браць зусім пад увагу і ня траціць часу ані на словы, ані на позіркі ў іх бок.

**Усе адносіны маладога чалавека да жаночага сьвету павінны кіравацца той праводнай думкай, што, калі з волі Бога мае ўступіць у сужэнства, дык толькі адна жанчына будзе ягоная і ён будзе толькі да яе аднае належаць: гэта сяброўка яго жыцьця і матка яго дзяцей. Ягоным абавязкам ёсьць захаваць сябе чыстым і годным яе. Непахісным прынцыпам у адносінах да яе павінна стацца думка: Жадаю ўжо цяпер дахаваць непарушную вернасьць сужонцы, якую мне Бог вызначыць. Жадаю належаць толькі да яе аднае і да ніякае іншае.**

Хто ня можа наважыцца на такую пазыцыю, той доўга без памылак і граху ня ўтрымаецца. Нястача станоўкасьці, хісткасьць, нерашучасьць вядуць, звычайна, да чорта — толькі думкі аснаваныя на ясных і глыбокіх прынцыпах вядуць да Бога. Тут ідзе гутарка аб барацьбе з найбольш падступным, найбольш хітрым і найбольш зацятым ворагам — пажадлівасьцю; ворагам, каторы ўнутры самога чалавека мае заўсёднага саюзьніка, з каторым за ўсякую цану імкнецца да ўлады. А ў жыцьці чалавека ёсьць нямала спакус і нагодаў да ўпадку і толькі тыя ім дзейна супрацьставяцца, каторыя вырашылі раз і на заўсёды: не забаўляцца любошчамі.

(Працяг будзе)

Паводля кніжкі Шільгэна «Du und Sie»
апрацаваў **Васіль Друя**.

# З жыцьця савецкае «Праваслаўнае» Царквы

У сьнежанскім нумары «Журналу Маскоўскае Патрыярхіі» за 1949 г. надрукаваны прывітальны ліст савецкіх «праваслаўных» ерархаў да «Правадыра народаў СССР генэраліссімуса Ёсіфа Вісарыёнавіча Сталіна» з нагоды ягоных 70 ўгодкаў. Не ўвайходзячы ў зьмест гэтага вельмі вымоўнага ліста, як дакуманту часу, даведваемся з яго вельмі цікавыя факты аб сучасны стане савецкае Царквы.

Ліст падпісалі 74 ерархі; між імі знайходзіцца адзін, аб якім да гэтага часу на старонках Ж.М.П. не ўспаміналася ні разу (яп. Анатолій Ізмаілскі), хоць паводля мейсца між ерархамі відаць, што ён мусіў быць хіратанізаваны вясною 1948 г. За тое не падпісалі лісту ерархі звольненыя на пакой, у ліку 5, а так-жа 7 ерархаў, аб якіх назначэньні ўспаміналася калісьці ў тым-жа Ж. М. П. Дзесь зьніклі яны, а іхныя епархіі займаюць цяпер іншыя. І вось само сабою напрошваецца пытаньне: Што сталася з гэтымі сямю ерархамі? І чаму аб іх нічога ня кажа Ж.М.П.? Некаторыя з гэтых ерархаў нядаўна хіратанізаваныя, а некаторыя нядаўна пакліканы «з пакою». Вось іхныя імёны:

1. яп. Аляксандар (Вінаградов) Жытамірскі хірат. у 1947 г. — ягонае мейсца займае цяпер яп. Сяргей Ларын, быўшы абнаўленец. 2. яп. Георгій (Садоўскі) Вялікалукскі, пакліканы ў 1946 г. з «пакою» — ягоны пасад займае цяпер яп. Міхаіл Рубінскі, які ў гадох 1947-48 быў у запрэце. 3. яп. Іоаннікій (Сперанскій) Віньніцкі. Ён быў назначаны «з пакою» толькі ў 1948 г. — цяпер ягоны пасад займаеновахіратанізаваны яп. Інокентій Зельніцкій. 4. яп. Максім (Бачынскі) Каменец-Падольскі хірат. у 1944 г. і чатыры разы пераношаны — цяпер ягоны пасад займае яп. Варлаам Борысевіч. 5. яп. Міхаіл (Постніков) Пензенскі, быўшы абнаўленец — цяпер ягоны пасад займае яп. Кірыл Поспелов. 6 мітр. Нестар (Анісімаў) экзарх Усх. Азіі, аб ягоным арыштаваньні былі весткі нават у зарубежных газэтах. Цяпер ягоны пасад займае яп. Нікандр Волнянікоў. 7. яп. Феодосій (Корневецкій) Кіровоградзкі, хірат. у 1945 г. — цяпер ягоны пасад займае нядаўнахіратанізаваны яп. Евстратій Подольскій.

Моўчанка Ж.М.П. адносна вышэйпералічаных ерархаў кажа сама за сябе, што магло з імі стацца. І над гэтаю «няведамаю» доляй ліст падзякі Сталіну за «неабмежаваную свабоду вызнаньня праваслаўнае веры», ці-ж гэта ня ёсьць чартоўскаю насьмешкаю над праўдаю?

Можна дагадвацца, што сыстэма чыстак. якая практыкуецца ў камуністычнай партыі, не абмінула і Царквы, якая стала на паслугі гэтае бязбожнае партыі. З гэтага ясны выснавак, што спадзявацца на мірнае сужыцьце Царквы і камуністычнае партыі ёсьць самаабманам.

Да 1948 г. лік савецкіх ерархаў збольшваўся. Леташні год азначыўся зьменшаньнем. Супаставіўшы лік ерархаў у канцы кожнага году, атрымаем: 1938 г. — 4, 1942 г. — 19, 1944 г. — 40, 1945 г. — 55, 1946 г. — 69, 1947 — 76, 1948 г. — 79, 1949 г. — 74. Праўда, цяпер даволі цяжка знайходзіць кандыдатаў на япіскапаў. За апошнія два гады (1948 і 1949) хіратанізавана ўсяго

9 ерархаў; з іх толькі адзін мае скончаную духоўную сэмінарыю, аб іншых кажацца, што яны «манахі» і толькі.

Годнае ўвагі ў савецкай сыстэме кіраваньня Царквою — гэта частыя перамяшчэньні. У царскай Расеі частыя перамяшчэньні былі так-жа на парадку дня, а цяпер савецкія ўлады з гэтага карыстаюць і за пэрыяд 1945-49 перамешчана 59 ерархаў, з іх 16 па два і больш разоў. Кідаецца аднак у вочы цікавы факт, што да гэтага часу перамяшчэньні амаль не закранулі япіскапскіх пасадаў захопленых ад грэка-каталікоў і рэпатрыяваных япіскапаў. Затое найбольш пераносяць дзейных людзей; напр. варта ўвагі, што перанесьлі з Горадні ў Семіпалацінск яп. Варсофонію не зважаючы на ягоную русыфікатарскую працу на Беларусі, але ад часу пераносу зьніклі ягоныя весткі ў Ж.М.П. — відаць ён зразумеў свой перанос так, што трэба маўчаць і ціха сядзець.

Цэнтралізацыя ўлады ў Маскве даходзіць да такіх драбніцаў, што нават зьезду духавенства ў благачыніі нельга зрабіць бяз згоды Патрыярха і таго, хто стаіць за ягонымі плячамі. Дзеля гэтага ўлада мітрапаліта і нават экзарха ёсьць толькі тытулярнаю.

**К. Мал.-віч.**

---

**Янка Золак.**

## ХРЫСТОС УВАСКРОС.

Хрыстос Уваскрос. Хрыстос Уваскрос. —
Званы званіцаў звоняць.
А Родны Край у моры сьлёз
Крывавіцца ў палоне.

Хрыстос Уваскрос. Хрыстос Уваскрос. —
Пяюць паўсюдах людзі.
І гэты сьпеў, як сьпеў нябёс
Надзею ў сэрцах будзіць.

Хрыстос Уваскрос. Хрыстос Уваскрос. —
Як хор анёлаў з раю,
Пяе ў душы маёй патос:
— І Ты ўваскросьнеш. Краю.
Красавік 1949 г.

**Янка Золак.**

## ПЕСЬНІ ЎЗЫХОДЖАНЬНЯ.

(Вольны пераклад).

### ПСАЛЬМ 119.

Да Госпада клікаў я ў смутку маім,
і Ён мяне выслухаў сэрцам сваім.
О, Госпадзе, вызваль — прашу я цярпліва —
Ты душу маю ды ад вуснаў ілжывых,
ад злых языкоў і іх словаў зрадлівых.
Што дасьць для Цябе, што прыспорыць Табе
язык хітра-злосны ў лісьлівай хвальбе?
Навойстраных стрэлаў магутнага змоўцы
з гарачымі вуглямі дроку-яноўца.
Знаходжуся я ў Масоха — о, гора! —
жыву ля Кідарскіх шатроў у пакоры.
Душа мая доўга жыла сярод тых,
спакой ненавідзяць, што ў душах пустых.
Я сам — супакойны; калі-ж не маўчу,
яны ўсе — за войны: даць працу мячу...

### ПСАЛЬМ 120.

Я вочы ўзьнімаю да вышаў, да гораў,
адкуль ка мне прыйдзе ўспамога у горы.
Успамога мая ды ад Госпада-Бога,
што неба і землю стварыў із нічога.
Ня дасьць пахіснуцца стапе Ён тваёй,
ня сьпіць за цябе Вартавы пільны твой,
ня сьпіць Ён, ня дрэмле на варце сваёй.
Гаспод — твой Ахоўнік, як сам для сябе,
Гаспод — і твой цень праваруч ад цябе,
каб сонца удзень не паліла у вочы.
каб месячык ясны ня крыўдзіў уночы.
Гаспод захавае цябе і ад зла,
каб заўжды душа твая чыстай была.
Гаспод сьцерагчыме твой выхад, ўваход
ад сёньня й да веку і з роду у род.

### ПСАЛЬМ 122

Да Цябе, што ў нябёсах жывеш,
узьнімаю я вочы мае.
Запраўды: так як вочы рабоў
паглядаюць на рукі паноў,
так, як вочы рабыні, глядзяць
на руку гаспадыні усьцяж,
так і нашыя вочы ўвесь час
скіраваны на Госпада-Бога,
аж пакуль не памілуе нас.
О, зьлітуйся над намі, зьлітуйся,
бо мы сыты пагардай па край.
Аж да дна нашы душы, о, Божа,
ўжо насычаны зьдзекамі гордых
і зьнявагай пыхлівых вяльможаў.

### ПСАЛЬМ 123.
**Давідаў.**

Калі-б ня было з намі Госпада-Бога —
скажы, о, народзе, скажы, о, Ізраіль, —
калі-б ня было з намі Госпада-Бога
тады, калі людзі супроць нас паўсталі.
жывых нас яны праглынулі-б тойчас,

так гнеў іх палаў тады, гнеў іх на нас;
і воды усіх затапілі-бы нас,
струмень іх пранёсься-б са сьпевам хаўтурным,
над нашай душою прайшлі-б воды бурна.
Гаспод блаславёны, пра нас што падбаў
і нас іх зубом, як здабычу, ня даў.
І наша душа, нібы птушка ўцякла
з расьпятага злым паляўнічым сіла:
парваныя сеці, і вось мы на волі
у пошуках лепшае, шчаснае долі.
У імені Створцы зямлі й неба — Бога,
У імені Господа — наша ўспамога.

ПСАЛЬМ 124.

Хто спадзяецца на Госпада-Бога —
моцаю роўны Сыёну-гары
будзе нязрушным на векі.
Горы навокала Ерузаліму,
Госпад — навокал народу свайго
сёньня й навекі вякоў.
Бэрла вязбожных над лёсамі верных
Бог не пакіне, каб верныя Богу
рук не цягнулі сваіх да грахоў.
Добры будзь, Госпад, для добрых,
праўдзівых, хто шчыры у сэрцы сваім.
Тых-жа, што сходзяць на сьцежкі крывыя,
выжані, Госпадзе, разам з злачынцамі.
Мір няхай будзе народу!

ПСАЛЬМ 126.

**Саламонаў.**

Калі які дом непатрэбным Бог лічыць —
дарэмны стараньні усіх будаўнічых.
Калі не ахоўваеш гораду, Божа, —
дарэмна ня сьпіць і вартуе старожа.
дарэмна і позна ня сплюшчыце вочы
Дарэмна вы ўстанеце рана паночы,
свайму улюбёнаму шле ціхі сон.
Ад Госпада дар — гэта нашыя дзеці,
плод лона — Яго нагарода на сьвеце.
Як стрэлы імклівыя дужай рукі,
У бацькі так дзеці — сыны-юнакі.
Шчасьлівейшы, пэўна, ёсьць той між жывымі,
каўчан свой напоўніў хто стрэламі тымі:
ня зганьбяць яны ні сябе, ні свой род
у гутарцы з ворагам злым ля варот.

**У. Б-ч.**

**ШУКАЙ ПРАЎДЫ.**

Для веры, для Бога, для роднага краю
жыцьця аддаць сілы, мой брат, не шкадуй!
Бацькоўскую мову, дзядоў абычаі,
як скарб драгацэнны, кахай і шануй!

За праўду змагайся адважна і сьмела;
сваіх ня чурайся гаротных братоў.
Для добрае славы і Божага дзела
усе свае сілы аддаць будзь гатоў.

Працуй для бяздольных, загнаных і бедных,
для Божае славы ахвяр ня скупі.
Людзям ня служы, брат, для густаў выбрэдных,
а лепей на небе багацьце капі,

бо Бог тады будзе цябе благаслравіць:
на полі і ў хаце, ў сям'і, між людзей.
Шукай толькі Праўды, яна цябе збавіць
ад многа балючых, няшчасных падзей!

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## ВЯЛІКДЗЕНЬ У РЫМЕ.

Сёлета на Вялікдзень з нагоды Сьвятога Году сабралася ў Рыме каля дзьвесьце тысяч паломнікаў; з гэтага ліку каля палавіны складалі паломнікі з-па-за Італіі. Гэта быў сапраўдны вобраз сусьветнае Царквы, бо знайшліся разам у аграмаднай колькасьці вернікі амаль з усяго сьвету. Такі наплыў паломнікаў перавысіў усякія спадзяваньні. У вялікодную нядзелю Сьвяцейшы Айцец Пій XII адслужыў урачыстую Службу Божую ў базыліцы сьв. Пятра. Хоць гэта найбольшая царква сьвету, але ў ёй зьмяшчаецца толькі 55 тысяч людзей, таму рэшта паломнікаў, быццам людзкое мора запоўніла пляц перад базылікай між колёнадай Бэрніні і суседнія вуліцы блізка аж да Тыбру. Для іх Службы Божыя адпраўляліся пад адкрытым небам. Калі пасьля Службы Божае Сьвяцейшы Айцец выйшаў на балкон базылікі сьв. Пятра, даць сваё апостальскае багаславенства ўсяму сьвету, усе паломнікі ўкленчыўшы прынялі гэтае багаславенства і панясуць яго па ўсім сьвеце сваім суродзічам.

## ПАХОД СУПРАЦЬ МАНАСТЫРОЎ.

Атакі камуністычнага ураду ў Чэхаславаччыне супраць Каталіцкае Царквы прымаюць штораз больш вострыя формы. Апошнім часам урад зарэквіраваў усе манастырскія памешчаньні, усіх кат. манахаў абвініў, як шпіёнаў і зраднікаў народу. ды пастанавіў пазьбіраць усё манашае духавенства ў асобныя супольныя манастыры, а зарэквіраваныя будынкі часткова перадаць дзяржаўнай «Каталіцкай акцыі», або пад іншыя дзяржаўныя ўстановы, а некаторыя проста пазачыняць. Харак-

тэрна, што гэты востры наступ на Каталіцкую Царкву ідзе адначасна з узмоцненым падтрыманьнем Праваслаўнае Царквы. Сёлета ў лютым месяцы адведала Чэхаславаччыну савецкая «праваслаўная» дэлегацыя з мітр. Мікалаем Круціцкім на чале і пры гэтай нагодзе хіратанізавалі для Чэхаславаччыны двох новых япіскапаў: Аляксея Дехтярэва і Чэстінара Крэчмара.

### ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНА І ВАТЫКАН.

Загадам чэхаславацкага камуністычнага ўраду 17-ІІІ г.г. мусіў пакінуць Прагу апошні прадстаўнік Ватыкану у Чэхаславаччыне Монс. Дэ Ліва. Характэрна аднак, што камуністычны ўрад хоча гэтаму акту прыдаць асабовы характар, быццам яны выкідаюць Монс. Дэ Ліва, як скампрамітаваную асобу, а не парываюць дыпляматычных зносінаў з Апостальскім Пасадам. Дзеля гэтага не адклікалі свайго прадстаўніка з Ватыкану.

Паколькі наіўна-бязлічнай ёсьць дыпляматыя камуністаў можа сьведчыць той факт, што Монс. Дэ Ліва быў адзіным прадстаўніком Апостальскага Пасаду за зялезнаю заслонаю.

### КАТАЛІКІ І ПРАТЭСТАНТЫ ПРАТЭСТУЮЦЬ СУПРАЦЬ КАМУНІСТЫЧНАЕ ПРАПАГАНДЫ.

Супольнае пастырскае пасланьне нямецкіх кардыналаў і архібіскупаў з красавіка месяца г.г. асуджае бязбожны матэрыялізм і асабліва насільнае прышчэпліваньне бязбожнае навукі моладзі ў савецкай зоне Нямеччыны. Пасланьне гэтае было прачытана ўва ўсіх каталіцкіх сьвятынях Нямеччыны.

Адначасна і эвангельскія пастары Бэрліну і Брандэнбургіі адчыталі пастырскі ліст эвангельскага біскупа д-ра Дібіліуса, у якім ён асуджае матэрыялістычную навуку і падбурваньне нянавісьці клясаў і расаў, а ўканцы пратэстуе супраць прапаганды матэрыялізму ў школах і ўва ўсім дзяржаўным апараце падсавецкае Нямеччыны.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### ГАЛЯНДЗКАЯ ГАЗЭТА АБ БЕЛАРУСІ.

Вялікая галяндзкая газэта «Дагблят дэ стэм» з дня 29-ІІІ, Нр. 1650 зьмясьціла вялікі артыкул аб Беларусі, у якім пераказвае ў галоўных рысах гісторыю Беларусі і змаганьне беларускага народу за незалежнасьць калісь і цяпер. Артыкул напісаны вельмі зьмястоўна і з сапраўдным разуменьнем, што беларуская справа ёсьць справаю ўсяе Зах. Эўропы.

### ВЫЛЮДНЕНЬНЕ БЕЛАРУСІ.

У штотыднёвым дадатку да газэты «Бальтік рівью» з дня 3-ІІІ зьявіўся вялікі і цікавы артыкул К. Цівэртс'а аб дэмаграфічных зьменах у Савецкім Саюзе. Аўтар на аснове папярэдніх савецкіх статыстычных данных і савецкае прэсы ды даных з апошніх выбараў падае дакладныя лікі сучаснага стану насельніцтва ў паасобных краінах Савецкага Саюзу. Адтуль даведваемся, што БССР у сучасных межах мае толькі 9, 3 мільёнаў жыхароў. калі ў 1939 г. на гэтым абшары было 9,4 мільёнаў жыхароў. Значыць, за адзінаццаць гадоў лік насельніцтва замест павялічыцца, зьменшыўся на 1,1%. Затое за гэты час значна ўзрос лік жыхароў у стратэгічных цэнтрах і акругах індустрыі, як Прыбалтыка, Зах. Сібір, Мурманск і амаль у два разы Далёкі Усход.

### АРГЭНТЫНА.

**Беларуская ўрачыстасьць у Буэнос Айрэс.**

Сёлета беларусы ў Аргэнтыне абходзілі вялікае нацыянальнае сьвята абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адначасна з сотымі ўгодкамі сьмерці вызвольніка Аргэнтыны гэн. Хозэ дэ Сан Мартін.

З гэтае нагоды ў нядзелю 26-га сакавіка рана а. Б. Арыйчык адправіў у праваслаўнай украінскай царкве Службу Божую за Беларускі Народ і ў сваім казаньні пажадаў хуткага ажыцьцяўленьня 32 гады таму абвешчанае незалежнасьці Беларусі і памыснасьці для ўсяго Беларускага Народу.

Пасьля Службы Божае адбылася ўрачыстая акадэмія ў летувіскім клюбе, на якой акрамя вялікае колькасьці беларусаў прысутнічалі прадстаўнікі ад Аргэнтыны, журналісты і прадстаўнікі ад суседніх нам народаў: летувісаў, палякаў, славакаў, украінцаў, чэхаў і ад албанцаў.

Адчыніў акадэмію прадстаўнік ураду БНР К. Мерляк вітаючы ў гішпанскай мове ўсіх прысутных і коратка паясьняючы значэньне 25-ІІІ для беларусаў. На заканчэньне ўступнага слова аркестра адыграла аргэнтынскі гымн, а пасьля ўся саля адсьпявала беларускі нацыянальны гымн.

Наступна вітаў прысутных ад імя ЗБА І. Гайхрох, пасьля чаго страшыня ЗБА К. Мерляк выгаласіў рэфэрат у гішпанскай мове аб жыцьці і дзейнасьці вызвольніка Аргэнтыны гэн. Хозэ дэ Сан Мартін. Далей Г. Юзэфовіч прачытаў рэфэрат аб 25 сакавіку.

Пасьля афіцыяльнае часткі адбыўся канцэрт, на які зложыліся сьпевы і дэклямацыі. На асаблівую ўвагу заслуговае выступ аргэнтынскае ар-

тысткі Н. Гомэз, якая ўдала выканала пабеларуску Песьню на выгнаньні. Удала так-жа выконвалі свае нумары: дуэт А. Грынкевіч і Л. Дземідзенко, дэклямацыя вершу «Роднаму краю» мяйсцовага паэта І. Нядзелько, які сказала дачка паэты Галіна. Прыгожа дэклямавала В. Фаміна. Таксама іншыя нумары былі выкананы добра і з пачуцьцём.

На заканчэньне былі прачытаны прывітальныя тэлеграмы ад беларускіх арганізацыяў і установ на эміграцыі. Зачынена акадэмію кароткой прамовай аб сучасным палажэньні беларускае вызвольнае справы.

Пасьля ўсяго быў наладжаны сяброўскі пачастунак, на якім гасьціннасьць, дэклямацыі і мелёдыі беларускіх народных песень выклікалі цёплую атмасферу. Гэты дзень на ўсіх прысутных зрабіў незацёртае ўражэньне і меў даволі шырокае водгульле ў мяйсцовай прэсе.

### Урачыстасьці на правінцыі.

Беларуская група з г. Бэразатэгі і ваколіцы годна азначыла 32 ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. У мяйсцовай беларускай праваслаўнай царкве а. В. Вячорка адправіў паніхіду за палеглых беларускіх ваякаў і малебень за беларускі нрод і зьвярнуўся да прысутных з гарачым прынагадным словам.

## АЎСТРАЛІЯ.

### Выстаўка ў Сыднэі.

У днёх 27-III, 1-IV адбылася ў Сыднэі першая выстаўка народнага мастацтва ўсіх нацыянальных груп новае эміграцыі. Арганізавала выстаўку Аб'еднаньне Нова-Аўстралійцаў пад пратэктаратам Міністэрства Асьветы Новае Паўднёвае Валіі. У выстаўцы ўдзельнічалі: беларусы, латышы, летувісы, мадзяры, сэрбы, украінцы і чэхі. Беларусаў павядомлена аб удзеле толькі чатыры дні перад адкрыцьцём выстаўкі. Аднак знайшліся людзі, якія не пашкадавалі ні часу, ні турботаў, каб сабраць экспанаты і паказаць красу беларускага народнага мастацтва. Бальшыня экспанатаў складалася з гафтаў і вышыўкаў.

Шкода толькі, што для выстаўкі было пры значана вельмі малое памешканьне, усяго дзьве салі для ўсіх нацыянальных групаў. У зьвязку з гэтым украінская газэта «Вільна думка» робіць зусім слушную заўвагу, што на будучыню варта паважна застанавіцца, перш чым прымаць удзел у імпрэзах з такімі няспрыяючымі абставінамі.

### Арганізацыйнае жыцьцё.

Аб'еднаньне Беларусаў у Новай Паўднёвай Валіі ўжо залегалізавана аўстралійскімі ўладамі і з датаю 25-III выдала на цыклястылю першы нумар свайго інфармацыйнага бюлетэню над назовам «Новае жыцьцё».

Дзякуючы стараньням новапаўсталае арганізацыі адбыўся ў Сэдныі зьезд беларусаў і сьвяткаваньне 32-іх угодкаў 25 сакавіка.

## БЭЛЬГІЯ.

### Сакавіковыя ўрачыстасьці.

У нядзелю 26-III група беларускіх студэнтаў і работнікаў з сваім нацыянальным сьцягам зложыла вянок на магіле нязнанага жаўнера ў Бруксэлі. Наступна адбылася кароткая акадэмія, на праграму якое зложыліся: рэфэрат, сьпевы, дэклямацыі і скокі.

Больш урачыста азначылі 32-ія ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беалрусі беларускія студэнты ў Лювэне. Там дня 28-III у салі студэнцкага дому была наладжана ўрачыстая акадэмія, на якой між шматлікімі госьцямі былі: Я. Э. біскуп Слосканс. Я. Э. біскуп Г. ван Вэйенбэрг — рэктар Лювэнскага Унівэрсытэту, віцэ-рэктар Унівэрсытэту монс. Ф. Літт, прафэсары, прадстаўнікі Саюзу Бэльгійскіх Пісьменьнікаў, прадстаўнікі бэльгійскага Міністэрства Замежных Спраў, а. Робэрт ван Ковэлерт — вялікі прыяцель беларусаў, карэспандэнты чатырох перадавых бэльгійскіх газэтаў («Ля лібр Бэльжік», «Гэт Фольк», «Дэ Стандарт», «Ляст Ньюс») і студэнты розных нацыянальнасьцяў.

Акадэмія распачалася абшырным рэфэратам у францускай мове, прачытаным старшынёю ЦБАА Б. Рагуляю. Рэфэрат зьмянілі музыка, беларускія народныя песьні, мэлёдэклямацыя і народныя танцы. Удалае выкананьне мастацкае часткі выклікала ў прысутных вялікае зацікаўленьне і зрабіла вельмі прыемнае ўражэньне. Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гымну. Пасьля заключальнае прамовы рэктара Унівэрсытэту ў іншай салі адбылося прыняцьце для госьцяў.

## ГІШПАНІЯ.

### Добры пачын.

У месячніку «Хрістіянітас», органе гішпанскае Арганізацыі Каталіцкае Унівэрсытэцкае Помачы, ёсьць куток, у якім зьмяшчаюцца артыкулы і весткі ў роднай мове тых студэнтаў, якія карыстаюцца з помачы гэтае арганізацыі. Сёлета першы раз у Нр. 5 успомненага часапісу зьявіўся артыкул у беларускай мове інфармацыйнага зьместу «Да беларускага грамадзянства на чужыне» падпісаны У. Р. — Р.

## ЗША.

### Беларуская ўрачыстасьць у Нью Ёрку.

Стараньнем Беларускага Аб'еднаньня ў ЗША ўрачыста азначана 32-ія ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. З гэтае нагоды 25-III адбы-

лося багаслужэньне за Беларусь у праваслаўнай украінскай царкве сьв. Уладзімера. Пасьля багаслужэньня ў салі пры царкве адбылася акадэмія, якую адычніў старшыня А. Б. ў ЗША інж. М. Гарошка. Рэфэрат прачытаў інж. М. Рагуля. Наступна прамаўляў прэз. інж. М. Абрамчык.

Пасьля прамоваў віталі беларусаў прадстаўнікі ад украінцаў, славакаў, эстонцаў і казакаў.

Закончылася акадэмія мастацкай часткай, у праграме якое былі сьпевы і дэклямацыі. Усе прысутныя разыходзіліся з салі з мілым уражэньнем.

### Урачыстасьці ў Чыкаго.

Беларуская група ў Чыкаго ў дзень 25-III сабралася ў адной з каталіцкіх царкоў, дзе правілася ўрачыстая Служба Божая за Беларусь з удзелам ганаровае варты беларускіх сяброў ордэну Калюмба. На ўрачыстасьці ўдзельнічала больш ста чалавек. Дзеля таго, што Чыкаго ведамае з вялікае колькасьці прасавецка настроенае эміграцыі, дык былі прыняты мерапрыемствы, каб ня было якіх нясупакояў падчас беларускіх урачыстасьцяў.

## ІТАЛІЯ.

### За Бацькаўшчыну.

Сёлета ў Рыме 25-га сакавіка была адслужана Служба Божая за Беларусь у архібазыліцы сьв. Пятра. Пасьля Службы Божае беларускія студэнты пайшлі на прошчу па ўсіх тых рымскіх базыліках, якія з нагоды Сьвятога Году адчыняюць сьвятыя дзьверы для багамольцаў, што прыходзяць сюды з усіх канцоў сьвету. Беларусы маліліся за хуткае зьдзейсьненьне ідэяў 25-га сакавіка і за ўсіх тых беларусаў, якія жадалі-б прыехаць у Рым на прошчу, але ня могуць.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Перанос лягэру.

Адзіны суцэльны беларускі лягэр у Брытанскай зоне Нямеччыны — Ватэнштэт сёлета ў сакавіку быў перанесены часткова ў Зээдорф ля Брэмэну, а часткова ў Брауншвайг. Адначасна з гэтым была перанесена і беларуская каталіцкая парахвія ў Зээдорф.

### У лягэры Розэнгайм.

Напярэдадні 25-III у лягэры Розэнгайм скаўты і вэтэраны ладзілі на лягэрным пляцу супольнае вогнішча, пасьля якога пайшлі на вячэрню ў лягэрную праваслаўную царкву. Раніцаю дня 25-III для каталікоў адслужыў Службу Божую а. М. Маскалік і сказаў прынагаднае казаньне, а для праваслаўных служыў яп. Васілі ў саслужэньні духавенства і так-жа сказаў казаньне.

Вечарам таго-ж дня ў прыгожа прыбранай лягэрнай салі была наладжана ўрачыстая акадэмія, якая складалася з дакладу і мастацкае часткі. Удала выкананая праграма пакінула ў прысутных добрае ўражэньне.

## ФРАНЦЫЯ.

### Агульны Зьезд АБРФ.

У салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу дня 25-III адбыўся агульны Гадавы Зьезд Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі.

Пасьля адкрыцьця Зьезду і выбару прэзыдыі, гэнэральны сакратар АБРФ інж. Л. Рыдлеўскі адчытаў справаздачу з дзейнасьці сакратарыяту за мінулы год, прадстаўнікі філіяў дапоўнілі гэтую справаздачу з дзейнасьці АБРФ на правінцыі. Не зважаючы на вялікія матэрыяльныя цяжкасьці было зроблена шмат так для абароны і апекі беларускіх работнікаў у Францыі, як і для беларускага арганізацыйнага жыцьця агулам. Рэвізыйная Камісія выказала, што праробленая праца была дастаткова плодная. Пасьля кароткае дыскусіі над справаздачамі ўступаючаму ўраду прызнана абсалюторыю і выбрана новы ўрад, у склад якога ўвайшлі: гэнэральны сакратар — інж. Л. Рыдлеўскі, тэхнічны сакратар — А. Міцкевіч, скарбнік — А. Роцко, сябра ўправы — А. Монід і В. Бут-Гусаім. Выбрана так-жа Рэвізыйную Камісію і Сяброўскі Суд ды намечана плян працы на бягучы год. Закончана Зьезд адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гымну.

### Урачыстасьці ў чэсьць 25-III у Парыжу.

З нагоды 32-іх угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі а. Рэктар Беларускае Рэлігійнае Місіі адслужыў ў нядзелю 26-III урачыстую Службу Божаю ў беларускай капліцы царквы Сан Сюлпіс і сказаў прынагаднае казаньне. Папалудні таго-ж дня ў салі Хрысьціянскага Сындыкату адбылася ўрачыстая акадэмія, якую распачалі беларускія дзеці харавою малітваю. Наступна пасьля выбару прэзыдыі і адчытаньня прывітаньняў А. Яцэвіч прачытаў зьмястоўны даклад аб незалежніцкіх змаганьнях беларускага народу.

Пасьля дакладу адбылася мастацкая частка, якая складалася з дэклямацыяў, харавых і салёвых сьпеваў. Гучныя і доўганезмаўкаючыя воплескі амаль пасьля кожнага нумару сьведчылі аб добрым выкананьні праграмы. Закончылася акадэмія агульным адсьпяваньнем беларускага, нацыянальнага гымну.

### Нацыянальнае Беларускае Сьвята ў Крэзо.

Стараньнем філіі ў Крэзо Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі быў урачыста азна-

чаны Беларускі Нацыянальны Дзень. З гэтае нагоды дня 26-III а. Ф. Чарняўскі адправіў Службу Божую за беларускі народ і выгаласіў зьмястоўнае казаньне. Папалудні таго-ж дня пасьля супольнага абеду адбылася сьвяточная акадэмія ў салі сындыкату, на праграму якое злажыліся: рэфэрат аб гісторыі 25-га Сакавіка, адчытаньне прамовы прэз. М. Абрамчыка, выгалашанае ў Чыкаскім радыё, даклад аб супрацоўніцтве з украінцамі, беларускія песьні і дэклямацыі. Уканцы сказаў вельмі прыгожае слова пад адрасам беларускага народу прадстаўнік францускага СФТС сп. Буле і прадстаўнік ад украінскае сэкцыі АУкРФ (ОУФР). Гэтае сьвяткаваньне зрабіла на прысутных паважнае ўражэньне і адазвалася шырокім рэхам у францускіх і іншанацыянальных кругох, дзе, як радасная падзея, а дзе, як соль у воку.

### Новы Адзьдзел АБРФ.

Беларуская група ў Страсбургу сёлета ў сакавіку месяцу зарганізавала Адзьдзел Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі пры СФТС і першы свой афіцыяльны выступ запачаткавала сьвяткаваньнем 32-іх угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. З гэтае нагоды адбылася акадэмія ў салі Колёмбофіль, на якой пасьля рэфэрату сп. Раманчука аб гісторыі 25 сакавіка прысутных прывітаў прадстаўнік францускага Сындыкату СФТС, наступна былі прычытаны прывітаньне ад сп. Прэзыдэнта і інш.

### Удзел беларусаў у выстаўцы-кірмашы.

У салі Гэнэральнага Сакратарыяту Францускае Канфэдэрацыі Хрысьціянскіх Работнікаў (СФТС) у Парыжу у днёх 1-2 красавіка была наладжана выстаўка-кірмаш, у якой удзельнічалі так-жа чужынецкія сэкцыі гэтае арганізацыі, між імі і Аб'еднаньне Беларускіх Работнікаў у Францыі. Беларуская выстаўка зьвярнула на сябе ўвагу дзякуючы добраму афармленьню і атракцыйнасьці экспанатаў. Дзякуючы стараньням беларускіх жанчын абслуга выстаўкі была так-жа наладжана добра і зрабіла паважны ўклад для папулярызацыі беларускае народнае творчасьці на Захадзе.

### Да ведама нядаўнапрыехаўшых.

Тым з перамешчаных асобаў (ДП), якія нядаўна пераехалі з Нямеччыны ў Францыю, IPO мае выплаціць прэмію у суме па 16 даляраў на душу.

У гэтай справе беларусы хай зьвяртаюцца да беларускага прадстаўніка ў IPO:

**Ing. Leon Rydlevski, 26, rue Montholon, Paris (9).**

Заявы ў гэтай справе можна слаць да 15-V г.г.

### ПОШУКІ.

167. **Буркова** Мікалая нар. 1883 г. шукае Оўчарук Аўгеня.
168. **Бутрэха** Аляксандра нар. у 1901 г. шукае др. Крывашэяў.
169. **Гэймана** Барыса нар. 1921 г. шукае Гіман Гільда.
170. **Грушу** Міхаіла нар. 1922 г. у Морачы шукае і ў смутку свой хлеб ядзіце вы, а Ён
171. **Комісарэнка** Івана нар. 1919 г. у Станіцы шукае Окінча Дарыя.
Груша Акуліна.
Марыю нар. 1909 г., **Кобылкіну** Ларысу нар. 1939 г. і **Кобылкіну** Ліду нар. 1937 г. шукае Кубіцей Сяргей.
173. **Козлова** Паўла нар. 1896 г. у Уладзівастоку шукае Бужэў Мікалай.
174. **Лескова** Мікалая нар. 1924 г. у Барысаве шукае Ляскоў Іван.
175. **Мантойфеля** Аўгеня нар. 1885 г. у Ломжы шукае Мантойфель Аўгень.
176. **Малыхіна** Аляксея нар. 1890 г. шукае Харытатыўная Служба.
177. **Шэбэко** Леаніда нар. 1928 г. шукае а. Маркел Ван-Куцэн.
178. **Топтало** Марыю нар. у в. Вірашкі шукае Каспэровіч Тацяна.

Адносна ўсіх вышэйпералічаных асобаў зьвяртацца на адрас:

**Weissruthenisches Caritasdienst in Deutschland, (20) GOSLAR/HARZ, Sommerwohlenstr. 1. A. Germany. Brit. Zone.**

179. Міхаіл **Арцюшэўскі** с. Паўла просіць усіх сваіх знаёмых, пражываўшых у Асіпавічах, адгукнуцца на адрас:

**Mr. M. Artüschewski, E. V. W. Hosel Old Hurst, Hunts, England.**

180. Сваіх родных: **Пратасаву** Веру, **Пратасаву** Надзю з в. Грабе акр. Бабруйск, і знаёмых: **Короля** Івана, **Лісоўскага** Уладзімера — шукае **Раговіч** Філіп. Пісаць на адрас:

**Mr. Rohowich Fylyp, P. O. Box 172, Caprial, Ont. Canada.**

### ЗЬМЕСТ




**Gérant : D. Kucopej.** **Directeur : Abbé L. Horosco.**

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.